 

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

No 30(66) 26 ліпеня- 1 жніўня 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Падзея тыдня

У час сваёй паездкі па Віцебскай вобласці А. Лукашэнка яшчэ раз закрануў праблему раздзялення ўлады ў рэспубліцы, і, як шлях вырашэння яе, прапанаваў змену дзеючай Канстытуцыі, асабліва ў раздзеле паўнамоцтваў прэзідэнта. Тым самым ён пацвердзіў вернасць сваёй новай ідэі аб правядзенні рэферэндуму і даў старт дыскусіі, якая разгарнулася ў СМІ па пытаннях, што выносяцца на абмеркаванне народу. Гэта датычыцца будучыні нацыі.

С. Багданкевіч ад імя фракцыі "Грамадзянскае дзеянне" Вярхоўнага Савета заявіў, што імі падрыхтаваныя альтэрнатыўныя пытанні для "прэзідэнцкага" рэферэндуму. Накірунак і змест іх будуць непасрэдна залежаць ад пытанняў, што прапанаваў А. Лукашэнка. Але ўжо сёння можна назваць адзін з накірункаў супрацьдзеяння, а менавіта вынясенне на народнае галасаванне праблемы ўсеагульных выбараў кіраўнікоў мясцовых органаў улады, што, натуральна, можа прывесці да знікнення прэзідэнцкай "вертыкалі".

Аналізуючы вынікі мінулага рэферэндуму, можна прадказаць перамогу таго, хто сфармулюе пытанні. Ініцыятыву праявіў прэзідэнт, і сваё развіццё яна атрымае ў той час, калі Вярхоўны Савет прыпыніў работу да верасня. Так што час для падрыхтоўкі да рэферэндуму выбраны кіраўніком дзяржавы вельмі прадумана. Хоць гэта і не засталося па-за ўвагай дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Так П. Краўчанка на сустрэчы з пасламі замежных дзяржаў, акрэдытаваных у Мінску, зрабіў заяву аб тым, што, нягледзячы на парламенцкія канікулы, Вярхоўны Савет дзейнічае, пастаянна працуюць яго Прэзідыум і старшыня, а дэпутаты, якія раз'ехаліся, могуць у любы час сабрацца на сесію. А дэпутат Карпенка, выступаючы на прэс-канферэнцыі ў ВС заявіў, што "як грамадзянін сваёй дзяржавы гатовы выступіць супраць рэферэндуму".

Падтрымка народа прэзідэнту РБ вельмі патрэбная асабліва зараз, калі ўзнікла шмат пытанняў па практычнаму ажыццяўленню інтэграцыі з Расіяй. Так,пастаяннае падаражанне расійскай сыравіны і энергарэсурсаў уплывае аўтаматычна на павышэнне цэн у нас у рэспубліцы, што робіць працэс цэнаўтварэння некіруемым, а спробы нашага кіраўніцтва стабілізаваць эканоміку– дарэмнымі.

Кіраўніцтва ўрада Беларусі заклапочана і ростам аб'ёмаў імпарту на тэрыторыі рэспублікі ў параўнанні з аб'ёмамі экспарту нашых тавараў. Як варыянт вырашэння праблемы, прапануецца павышэнне мытных пошлін, але без узгаднення з урадам Расіі яго не вырашыць. Спісанне даўгоў Беларусі па "нулявому варыянту" знаходзіцца ў рабочым працэсе, гэта значыць узніклі некаторыя пытанні. Усё гэта, і, напэўна, многае іншае дазволіла заявіць Лукашэнку на з'ездзе дзелавых колаў рэспублікі аб вялікім замаруджванні працэсаў інтэграцыі з Расіяй у цяперашні час. Але не па віне Беларусі.

***Аляксандр УЛАДЗІН.***

## Адным абзацам

❑На з'ездзе дзелавых колаў рэспублікі 22 ліпеня прэзідэнт А. Лукашэнка паведаміў, што ім падісаны указ аб падтрымцы малога і сярэдняга бізнесу. Згодна з указам, падтрымка будзе аказана, у першую чаргу, прадпрымальнікам, якія займаюцца вытворчасцю, таксама тым бізнесменам, якія гандлююць айчыннымі таварамі і своечасова плацяць падаткі. На малых прадпрыемствах з колькасцю работнікаў да 15 чалавек чакаецца спрашчэнне сістэмы падаткаабкладання і бухгалтарскага ўліку.

❑У Турцыі з трохдзённым афіцыйным візітам пабывала дэлегацыя Беларусі на чале з А. Лукашэнкам. У ходзе візіту падпісаны дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве паміж нашымі краінамі і мемарандум аб выдзяленні экспартна-імпартным банкам Турцыі крэдытнай лініі на суму $20 мільёнаў. На сустрэчы з дзелавымі коламі турэцкага бізнесу абмяркоўваліся пытанні прыцягнення прыватных інвестыцый у рэспубліку, прыярытэтнай галіной супрацоўніцтва застаецца будаўніцтва.

❑24 ліпеня старшыня ВС Беларусі С. Шарэцкі наведаў трактарны завод, дзе азнаёміўся з вытворчым працэсам і сустрэўся з прадстаўнікамі працоўнага калектыву. Размова на сустрэчы ішла, перш за ўсё, аб выніках работы першай сесіі парламента.

❑У адпаведнасці з указам прэзідэнта РБ пачалася атэстацыя кіраўнікоў банкаў. Будзем спадзявацца, што гэтая мера, а таксама пераход, згодна з тым жа указам, са жніўня на аплату працы ў банкаўскай сферы ў памеры адзінай тарыфнай сеткі, толькі павысяць надзейнасць нашых банкаў.

❑У Мінск прыязджае мэр горада Лондана. У выніку гэтага візіту чакаецца далейшае развіццё адносін паміж сталіцамі Беларусі і Злучанага Каралеўства.

❑Гарачая пара ў абітурыентаў– ідуць уступныя экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі. Аб прыярытэтах паступаючых сведчаць дадзеныя аб конкурсе ў розных ВНУ. Высокай папулярнасцю, як і чакалася, карыстаюцца эканамічныя спецыяльнасці– больш за 2 чалавекі на месца. Конкурс у Акадэмію міліцыі МУС– 4 чалавекі. Рэкорд устаноўлены жадаючымі ахоўваць межы нашай Радзімы– 10 чалавек на месца.

❑У скарбонцы беларускіх спартсменаў на Алімпіядзе ў Атланце– першыя медалі. 3 сярэбраныя, 1 бронзавы. Залатых узнагарод пакуль, на жаль, няма.

❑У старажытным Крэве на Смаргоншчыне ў мінулую пятніцу ўстаноўлены крыж– помнік загінуўшым падчас першай сусветнай вайны. Наш рэгіён у той час амаль на тры гады быў разрэзаны лініяй фронту, па абодва бакі якога вырасталі могілкі.

❑27 ліпеня– Дзень Незалежнасці. Нягледзячы на другакрасавіцкае супольніцтва і дагавор чатырох краін, спадзяёмся, што краіна застанецца суверэннай і незалежнай дзяржавай. Жыве Беларусь!

## Дзень Незалежнасці– з Максімам



# "Ён, гэты дзень, яшчэ настане!"

27 ліпеня ў Ракуцёўшчыне ля Краснага (праезд электрычкай да станцыі Уша) пройдзе свята паэзіі песні Максіма Багдановіча з удзелам Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Васіля Зуёнка, Дануты Бічэль-Загнетавай, Алесі Камоцкай, Алега Атаманава, Эдуарда Акуліна і іншых паэтаў і бардаў Беларусі. Пачатак у 11 гадзін. Адсвяткуем Дзень Незалежнасці разам з яе вестуном Максімам!

## Навіны

### Не збяднела зямля радашкоўская

***Заслужаны настаўнік Беларусі, літаратар з Радашковічаў, Сымон Белы прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.***

Сымон Міхайлавіч цяпер пенсіянер, вядомы сваімі артыкуламі на коласаўскія тэмы. Не дзіва, бо ён не толькі нарадзіўся ў Мікалаеўшчыне, але і даводзіцца Коласу пляменнікам.

***Аддзел інфармацыі.***

### Як святары міліцыю пабілі

***АСТРАВЕЦ. У мінулую нядзелю на мясцовым стадыёне адбыўся незвычайны і першы за ўсю гісторыю Астравеччыны футбольны матч паміж камандамі міліцыі і святароў.***

Ідэя падобнай сустрэчы ўзнікла ў ксяндза Бярнарда з мястэчка Гудагай. Ён запрасіў да ўдзелу ў гульні святароў з Жупранаў, Ашмянаў, Нарачы, Канстанцінава, іншых мясцін.

І вось матч. Нягледзячы на працяглы дождж, што крыху сапсаваў настрой не толькі ўдзельнікм, але і балельшчыкам, сярод якіх, дарэчы, былі манашкі і клерыкі з Краснага, тон з першых хвілін пачалі задаваць святары. Неўзабаве націск завяршыўся голам у вароты міліцыянераў, які забіў айцец Павел.

Затым два галы запар балельшчыкі ўбачылі ў выкананні айца Себасцьяна, а пераможную кропку на прыемнае здзіўленне для ўсіх паставіў брат Павел. Міліцыянеры забілі толькі тры галы і з гэтым засталіся.

–Спорт аб'ядноўвае ўсіх людзей,– падагуліў ксёндз Бярнард.– Я вельмі ўзрушаны зыходам, бо нічога падобнага не чакаў.

На заканчэнне каманды абмяняліся вымпелямі і атрымалі па тарту, адпаведна, запатому і сярэбранаму. А па Астраўцы ходзяць чуткі, што быццам бы начальнік міліцыі паабяцаў звольніць з работы "няўдачнікаў". Відавочна, хутка можна будзе без праблем уладкавацца на працу.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

### На байдарках

***ВІЛЕЙКА. З воднага паходу на байдарках вярнуліся нядаўна ўдзельнікі турыстычнага гуртка, які працуе пры ЖЭУ-2.***

Міхаіл Петух і сямёра яго выхаванцаў ва ўзросце ад дзесяці да пятнаццаці гадоў прайшлі 73 кіламетры па Віліі ад Пагоста да Вілейкі.Байдаркі яны рыхтавалі самі, гэтак жа, як і на свае сродкі закуплялі прадукты і ўсе астатнія рэчы, неабходныя для арганізацыі паходу.

Час спонсараў, здаецца, мінуўся, хаця дарэмна. Бо з паходу дзеці прывезлі масу новых уражанняў, навучыліся выручаць адзін аднаго ў экстрэмальных абставінах, а галоўнае, не папоўнілі рады тых гуляючых без справы падлеткаў, якіх і так шмат у нашых дварах.

***Аддзел інфармацыі.***

### Ягадныя пункты

***АСТРАВЕЦ. Такія "установы" ў раёне з'яўляюцца, бы грыбы пасля дажджу. Акрамя вядомых пунктаў райкаапнарыхтпрама ў сельскай мясцовасці і райцэнтры, з'явіліся таксама і лясгасаўскія.***

Адкрыццю апошніх пасадзейнічаў днямі падпісаны кантракт з польскай фірмай "Лехполь" з Ольштына. І прадугледзелі ў ім усе дробязі– ад адкрыцця саміх пунктаў да аплаты за здадзеныя чарніцы.

Дарэчы, каб са здачай у жыхароў аддаленых вёсак не ўзнікала складанасцей, то тут пайшлі на адкрыццё падобных пунктаў на месцы. Дзейнічаюць яны ў Дравяніках, Каценавічах, Альхоўцы, Слабодцы, Страчы, некаторых іншых вёсках. Аплату за ягады праводзяць адразу наяўнымі з разліку 6500 рублёў за кілаграм, з якіх дзесяць працэнтаў ідзе на рахунак лясгаса.

І неблагі "навар" атрымліваецца, калі прыняць да ўвагі тое, што толькі за першы тыдзень дзеяння падобных "установ" закуплена амаль 8 тон чарніц. Сам жа кантракт прадугледжвае план закупкі 200 тон ягад. Напэўна, такая лічба становіцца рэальнай, калі ўлічыць, што амаль палова лета яшчэ наперадзе, а чарніц у лясах багата.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

### Моладзь разам з ветэранамі

***МАЛАДЗЕЧНА. У канферэнц-зале гарадской бібліятэкі імя М. Багдановіча адбыўся ўстаноўчы сход мясцовага аддзялення Беларускай Дэмакратычнай Арганізацыі Ветэранаў.***

На павестцы дня былі выбары кіруючых органаў аб'яднання, а таксама мэты і план дзеянняў на будучыню. У перапоўненай зале бібліятэкі сабраліся ветэраны вайны і працы, прадстаўнікі маладзечанскай Рады БНФ, нядаўна створанага ў горадзе Беларускага Дэмакратычнага Саюза Моладзі.

Адзін з кіраўнікоў БДСМ Сяргей Юркевіч выступіў з прамовай , накіраванай на супрацоўніцтва з дэмакратычнай ветэранскай аргнізацыяй у плане адстойвання правоў чалавека, Канстытуцыі і незалежнасці нашай краіны. Як і трэба было чакаць, прапанову падтрымалі мастак Кастусь Харашэвіч, Тадэвуш Шусціцкі, які адзінагалосна і быў абраны старшынёй мясцовай філіі БДАВ. Намеснікам і адначасова выканаўчым сакратаром стаў былы настаўнік беларускай мовы і літаратуры Аркадзь Сосна.

***Алесь ЦАДКО.***

### 5 гадоў Царкве

***МАЛАДЗЕЧНА. Царква Поўнага Евангелля адзначыла пяцігоддзе свайго існавання. Пастары яе– Вячаслаў і Уладзімір Сонічы. Падобныя цэрквы ў апошнія гады створаны таксама ў Вілейцы, Валожыне, Смаргоні, Мядзеле і Прудах. Маладзечанская з іх найбольшая.***

З 15 чалавек, якія былі першымі, колькасць членаў узрасла сёння да 300. Большая частка з іх– моладзь. У малітвах і песнях яны ўслаўляюць Бога, "жывую Царкву", абразам не пакланяюцца.

За 5 гадоў адбылося 500 набажэнстваў. Створаны тры музычныя калектывы: "Вестник", "Логос" і Група праслаўлення. Вернікі ЦПЕ прапаведуюць сваё "жывое Слова" у гарадской бальніцы, Доме састарэлых, ладзяць малебны за здароўе хворых.

Сёння маладзечанская царква Поўнага Евангелля падтрымлівае сувязь з хрысціянамі Англіі, Германіі і іншых краін.

***Аддзел інфармацыі.***

### Буш жыве ў Вілейцы

***І не адзін, а цэлыя чатыры.***

Жыве сям'я ў двухпакаёвай кватэры на чацвёртым паверсе дома ў цэнтры Вілейкі. Кватэру гэтую галава сям'і Уладзімір Буш атрымаў пасля шматгадовай працы будаўніком. Гаспадыня, Таццяна, працуе ў дзіцячым садку. Сама яна нарадзілася на Магілёўшчыне, а вось прозвішча, такое рэдкае і вядомае, аказваецца, вілейскае. Бацька Уладзіміра ўсё жыццё пражыў у невялікай вёсцы Губы на Вілейшчыне. Але нават у вёсцы, на радзіме, іх сям'я адзіная носіць прозвішча Буш. У Валодзевага бацькі быў брат, але пасля вайны з'ехаў некуды, і згубіўся яго след. Уладзімір– адзіны сын у бацькі і адзіны прадаўжальнік гэтага прозвішча. Яго сын Андрэй– таксама.

Па дадзеных пашпартнага аддзялення больш гараджан з такім прозвішчам не зарэгістравана.

***Аддзел інфармацыі.***

## Сведчаць дакументы

# 1939-1941

## Хроніка злачынстваў

*Працяг. Пачатак у №№28,29.*

*У гэтым нумары мы працягваем друкаваць матэрыялы з кнігі Рышарда Шаўлоўскага "WOJNA POLSKO-SOWIECKA 1939"*

Ведаў, што гэта азначае. Адзін з энкавэдзістаў схапіў Качаніна, а мне крыкнуў: уцякай! Пабег уперад, бо ведаў, што мяне чакала б, калі б не паслухаўся загаду. Праз хвіліну пачуў два стрэлы— не да мяне. Дабег да групы вязняў, з апошніх сіл убіўся ў іхнюю сярэдзіну і прыгледзеўся да людзей: і да тых, хто ўжо не меў сіл і заставалася яму абавязковая смерць, і да тых неразумных, арыштаваных нядаўна, якія баяліся канваіраў і слухаліся іх не так як мы, вопытныя вязні. Яны, маючы вялікі запас сіл, былі наперадзе, падтрымлівалі хуткі тэмп, які патрабавалі з іх, расцягваючы калону, што азначала смяротныя прыгаворы для астатніх у калоне.

Так рухаліся да гадзіны дня да самых Плешчаніц, скідваючы па дарозе абсалютна ўсё, што мелі і што было цяжкае, не выключаючы адзення, каб толькі зведаць палёгку. Не адзін вязень спрабаваў уцячы, пакольк і побач з пешымі канваірамі ехалі конныя і расстрэльвалі кожнага, хто аддаляўся ад калоны хаця б на крок. Некалькі вязняў атрымалі нервовы шок— усе загінулі ад куль канваіраў. Урэшце пад самым мястэчкам Плешчаніцы па ўскрайку лесу быў зроблены гадзінны адпачынак, падчас якога на вачах усіх расстралялі гімназіста Часлава Сівіцкага за словы абвінавачвання канвою ў масавых знішчэннях палякаў.

Да Разані даехала толькі 2/3 эвакуіраваных з Вілейкі вязняў. Ёсць сведчанні, што начальнік канвою НКВД "не далічыўся" 547 чалавек. З іншых крыніц вядома, што, напрыклад, з адной толькі камеры з 54 чалавек забілі 14, з другой з 30 чалавек было забіта 12, з трэцяй з 96 чалавек— 31 і г.д.

Ніжэй падаем прозвішчы толькі тых людзей, якіх бачылі і запомнілі як забітых па дарозе:

1. Ахрановіч Пётр.
2. Бабіч— пенсіянер дзяржпаліцыі.
3. Барылка Станіслаў— настаўнік.
4. Бачарскі Люцыян— інжынер.
5. Бондар Пётр— селянін.
6. Бондар Уладзіслаў— службовец дзяржпаліцыі.
7. Бандарэвіч Вацлаў.
8. Бурдэцкі Юзэф— судовы служачы.
9. Быхавец Ян— з Ашмянаў.
10. Хорват (Горват) Стэфан— адміністратар зямельнай маёмасці.
11. Хволес (Хволіш)— інжынер з Вільні.
12. Чаховіч— землеўладальнік.
13. Даніловіч—селянін.
14. Даргель— сяржант з Браслава.
15. Дробік (Драбік)— начальнік станцыі.
16. Духаўскі Ігнат— войт.
17. Дзяконьскі Януш— грамадзянін з-пад Брэста.
18. Дзяргач Вітольд— гаспадар склепу ў Нястанішках.
19. Фіялкоўскі Станіслаў.
20. Гарніцкі Станіслаў— адвакат з Вілейкі.
21. Гладыш— работнік Віленскага аддзялення чыгункі.
22. Грыгор'еў— капітан Войска Польскага.
23. Гарніцкі (Граніцкі) Юзэф— каморнік з Вілейкі.
24. Хцыфец— аптэкар.
25. Яхандовіч Ян— сталяр з Відзаў.
26. Яхандовіч Ян— селянін.
27. Ямжыцкі Цэзар— гімназіст.
28. Янкевіч Ян— старшы паліцыянт.
29. Яновіч Стэфан— з Пастаўскага павету.
30. Ярашэфіч Юзэф— дырэктар Сялянскай хаты (скочыў з моста ў рэчку).
31. Яворскі.
32. Юхневіч Ян— селянін.
33. Юхневіч Юзэф— фінансавы службовец з Вілейкі.
34. Качан Станіслаў— настаўнік.
35. Камінскі Ігнат— асаднік.
36. Канчанін Юзэф— настаўнік з Лынтуп.
37. Карціш.
38. Каралькевіч Фелікс— землеўладальнік з Браслава.
39. Карповіч.
40. Кімбар Аляксандр— з Вілейкі.
41. Кімбарт— старшыня касы Стэфчыка з Нястанішак.
42. Кімбер Станіслаў— селянін.
43. Кісель Ян—каморнік.
44. Корнблюм— з Вілейкі.
45. Касяк (памёр у выніку запалення мозгу пасля удару прыкладам ).
46. Коўшан (Коўшын) Станіслаў— солтыс гміны Медзыкі.
47. Кучэўскі.
48. Лямпрэхт Вітольд— фінансавы службовец з Вілейкі.
49. Лемантовіч Тэадор.
50. Ляскевіч (Ляшкевіч) Ян—шавец з Даўгінава.
51. Ліпінскі Мікалай—каморнік.

*Працяг будзе.*

# СНІД— гэта рэальна

***МАЛАДЗЕЧНА. Па ацэначных дадзеных, на 60000 жыхароў ЗША прыходзіцца адзін ВІЧ-інфіцыраваны. Беларусь сярод краін СНД і Балтыі знаходзіцца на трэцім месцы.***

Але калі ў пачатку года было зарэгістравана 113 чалавек, інфіцыраваных вірусам СНІДу, то на сённяшні дзень (без уліку Светлагорска– рэд.) іх колькасць складае 130 чалавек. Адзінаццаць памерлі, у 41 хворага развіліся тыя сімптомы хваробы, якія дазваляюць пражыць не больш за два гады.

Асноўная маса інфіцыраваных выяўлена ў Мінску і Светлагорску, найменш у Мінскай і Гродзенскай абласцях.

Пра СНІД ведаюць усе, і хвароба гэтая пагрукалася ў нашыя дзверы. Ці прадухілім мы трагедыю, якая надыходзіць– залежыць ад кожнага асобнага чалавека. Самыя ўніверсальныя метады бяссільныя, калі чалавек сам не клапоціцца аб сваім здароўі.

Моладзь рана знаёміцца з сексам: неабходна дабіцца таго, каб прэзерватыў стаў такой жа звыклай рэччу, як і іншыя прадметы побыту. На сённяшні дзень менавіта прэзерватыў з'яўляецца найбольш рэальным і даступным сродкам прафілактыкі СНІДу.

Калі вы захочаце праверыцца на СНІД, вы можаце звярнуцца ў любую лячэбную ўстанову і прайсці абследаванне ананімна.

СНІД– хвароба каварная, нябачная. На сённяшні дзень няма ні вакцын, ні прэпаратаў, якія здольныя вылечыць ад яе. Незалежна ад таго, дзе яна падпільноўвае сваю ахвяру: у пасцелі ці на канцы іголкі– смяротны вынік гарантаваны. У свеце пакуль дакладна не ўстаноўлена ніводнага выпадку выздараўлення ад СНІДу.

*Маргарыта ПРАЦКОВА, урач-эпідэміёлаг.*

## "Трывожная камандзіроўка"

***Чытачы "РГ" знаёмыя з матэрыяламі са Светлагорска. У нашай рэдакцыі ўсталяваліся прыязныя стасункі з тамтэйшай мясцовай тэлерадыёкампаніяй "Ранак" і газетай "Ранак-плюс". Але не гэта было асноўнай прычынай публікацыі. Галоўнае— яны ўзнімалі тэмы, да якіх была цікавасць зусім не мясцовага характару. У жніўні мінулага года гэта быў рэпартаж аб вынясенні прыгавору сексуальнаму маньяку-забойцу Ігару Міранкову, сёлета— звесткі аб успышцы СНІДу, якой няма роўных у СНД.***

***Менавіта апошнім была выклікана "трывожная камандзіроўка" у Светлагорск спецыяльнага карэспандэнта "РГ" Міколы Гайдука.***

# Горад без будучыні



"Город энергетиков, город строителей, город химиков, город юности– Светлогорск"– такімі словамі сустракаў горад на Бярэзіне, узрост якога ўсяго трыццаць пяць год, сваіх гасцей. А яшчэ: "Я знаю, город будет, я знаю, саду цвесть..."

Светлагорск застаўся горадам энергетыкаў, будаўнікоў, хімікаў, юнацтва. Але стаў яшчэ горадам радыяцыі, хіміі, наркаманаў, ВІЧ-інфіцыраваных. Горад, дзе не толькі надвячоркам бацькі баяцца выпускаць сваіх дзяцей на вуліцу. Свежыя ўспаміны аб жудасных смерцях маленькіх хлопчыкаў у прыгарадных лясах, хаця ў сярэдзіне чэрвеня і пастаўлена апошняя кропка ў крывавай гісторыі злачынцы Ігара Міранкова. Горад, адна назва якога сёння прымушае здрыгануцца.

Але там жывуць людзі. Нармальныя людзі. Людзі, якія баяцца ісці на прыём да стаматолага, у цырульню.

**Ганна П.**, медыцынскі работнік: Што рабіць мне з маім сынам-падлеткам? Сказаць, каб не хадзіў на дыскатэкі? Не гаварыць? Просіць грошы на прэзерватывы– даю. Але хіба гэта выйсце? СНІД носіцца ў паветры.

**Валянцін Піліпенка**, галоўны ўрач наркалагічнага дыспансера: Многія маладыя людзі абралі шлях наркаманіі і асудзілі сябе тым на цяжкае псіхічнае захворванне. Менавіта гэтая катэгорыя насельніцтва падвергнутая заражэнню ВІЧ-інфекцыяй. І нягледзячы на гэта па-ранейшаму колькасць наркаманаў расце.

Па словах галоўнага ўрача гомельскага абласнога цэнтра прафілактыкі СНІДу **Валерыя Лавачкіна**, хаця сёння ВІЧ-інфіцыраваныя знаходзяцца сярод гараджан, ніхто не збіраецца горад закрываць. Няма неабходнасці абследаваць усіх. А вось групы рызыкі– наркаманаў, прастытутак, хворых на венерычныя захворванні– абавязкова.

Сёння Светлагорск з 70-тысячным насельніцтвам займае першае месца ў краіне па захворванню СНІДам. Прычыны розныя. Я б вылучыў некалькі. Горад "зборны". Будаваць яго і працаваць прыехалі людзі з усяго свету. Не ўсе былі з лепшымі біяграфіямі. Ды адарванасць ад каранёў не стымулюе развіццё духоўнасці, маральнасці. Гэта прычына першая. Прычына другая ў тым, што значная частка светлагорцаў ездзіла, ды і ездзіць яшчэ на заробкі вахтавым метадам у Сібір. Кватэры заставаліся без бацькоў, на непаўналетніх нашчадкаў. Усе ўмовы для прытонаў. Так часта і здаралася. Вынік: Светлагорск– беларуская сталіца СНІДу.

**Валянціна А.**, гараджанка: Як ісці да зубнога ўрача, у цырульню? Вы часта заўважалі, каб у цырульні інструмент падвяргаўся дэзінфекцыі?

**Уладзімір К.**, настаўнік: Не за сябе баюся. Я кахаю жонку, яна– мяне. Іншых кантактаў няма і не будзе. Але растуць дзеці. Дзе гарантыя, што нейкі звар'яцелы наркаман не стане тэрарыстам ад СНІДу– шмат спосабаў заразіць нічым не вінаватых дзяцей. А калі дзіцё шпрыц падбярэ ды паспрабуе пагуляць у бальніцу?

Пытанняў больш, чым адказаў. І што адказаць на пытанні аб будучым 28-гадовай жанчыне, якая памірае ў раённай бальніцы. Гангрэна, што пачала раз'ядаць амаль усё цела, не пакідае ілюзій.

У апошні дзень камандзіроўкі на лесвічнай пляцоўцы дома, дзе кватараваў, нага нечакана наступіла на скарыстаны аднаразовы шпрыц. Папярэдняй ноччу тут сядзела кампанія юнцоў. Хутчэй за ўсё, калоліся адным шпрыцам– танней. Вы бачылі "завернутыя" вочы наркаманаў? Іх не цікавіць анішто.

***НА ЗДЫМКУ:** светлагорская райбальніца. Гэтай жанчыне 28 год. Апошнія дні жыцця. Дыягназ: СНІД. Відэакадр Вадзіма ВЕЖНАЎЦА.*

***У наступнай публікацыі са Светлагорска: апошняе інтэрв'ю маньяка Ігара Міранкова.***

## Для тых, хто верыць Месяцу

### Месяцавы каляндар на ліпень

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Панядзелак<br>Мес.дзень | | 5<br>23.38<br>22 | 12<br>4.02<br>28 | 19<br>11.33<br>6 | 26<br>18.37<br>13 |
| Аўторак<br>Мес.дзень | | 6<br>24.00<br>23 | 13<br>5.02<br>29 | 20<br>12.43<br>7 | 27<br>19.14<br>14 |
| Серада<br>Мес.дзень | | 7 | 14<br>6.04<br>9.10<br>30.1 | 21<br>13.51<br>8 | 28<br>19.47<br>15 |
| Чацвер<br>Мес.дзень | 1<br>21.50<br>18 | 8<br>0.54<br>24 | 15<br>7.08<br>2 | 22<br>15.00<br>9 | 29<br>20.16<br>16 |
| Пятніца<br>Мес.дзень | 2<br>22.17<br>19 | 9<br>1.28<br>25 | 16<br>8.13<br>3 | 23<br>16.06<br>10 | 30<br>20.43<br>17 |
| Субота<br>Мес.дзень | 3<br>22.43<br>20 | 10<br>2.15<br>26 | 17<br>9.18<br>4 | 24<br>17.03<br>11 | 31<br>21.10<br>18 |
| Нядзеля<br>Мес.дзень | 4<br>23.10<br>21 | 11<br>3.05<br>27 | 18<br>10.26<br>5 | 25<br>17.54<br>12 | |
| Дата | | 6 жн. | 14 жн. | 22 жн. | 28 жн. |
| ФАЗЫ Месяца | поўня | 4 чвэрць | маладзік | 2 чвэрць | поўня |

Усход Месяца — для Маладзечна

**Крытычныя месяцовыя дні** – 9, 15, 19, 23, 29 – патрабуюць асцярожнасці і абароны.

**Спрыяльныя месяцовыя дні** – 6, 10, 12, 16, 17, 30 – даюць добрую энергію і падтрымку светлых сіл.

### Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 1 | 3 | 5 | 7 | 9 | 11 | 14 | 16 | 19 | 21 | 23 | 26 | 28 | 30 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♓ | ♈ | ♉ | ♊ | ♋ | ♌ | ♍ | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ |

## Зацьменні ў жыцці Ф. Скарыны

(Працяг).

Выразна праявіўся ў жыцці Ф. Скарыны "вялікі сарос", бо ў гэты час яму споўнілася 54 гады 7 месяцаў і 5 дзён.

Менавіта з 10 па 30 мая 1530 года Уран у гараскопе Скарыны з'яўляўся Анарэтай (садзейнічае таму, што чалавек трапляе пад уладу звярыных інстынктаў, якія прыводзяць яго да фобіі, альбо да злачынства, але ў Скарыны гэта творчая сублімацыя). Уран стварыў для Скарыны нечаканыя перашкоды і ізаляцыю, небяспеку насілля і турэмнага зняволення. Спробы рэфармацыі даваліся яму ў барацьбе са злом (асабліва ў бліжэйшым акружэнні), у далёкіх і блізкіх падарожжах, судовых справах.

Скарыну хацелася разгарнуць кнігадрукаванне ў Маскве. Яна, як вядома, знаходзіцца пад знакам Цяльца, а Цялец у гараскопе Скарыны атаясамліваецца з Мэтай менавіта ў другой палове жыцця. У Скарыны адбылося зацьменне добрай думкі, паглядзіце да чаго прывялі добрыя намеры.

Паводле гістарычнага дакумента, Скарына "выкраў" у герцага Альбрэхта лекара і друкара, каб узяць іх з сабою ў Маскву для разгортвання там кнігадрукавання, продажу надрукаваных кніг, наладжвання на гэтай аснове камерцыйнай справы, медыцыны:

Цяпер звернемся да нядаўна выпушчанай кнігі Сымона Брага "Доктар Скарына ў Маскве": "... лагічна дапускаць, што да Масквы Скарына выбраўся хутчэй пасьля таго, як меў сьвежа надрукаваную, у большым ліку, новую кнігу, як перад тым і толькі з кнігамі праскага друку. Гэтыя меркаваньні прыводзяць да прыпушчэньня, што падарожжа Скарыны да Масквы адбылося найхутчэй не перад піяваю першае ягонае віленскае кнігі "Апостал", а пасьля, ці па сакавіку 1525 г. Маючы гэта на ўвазе, трэба прыняць за найбольш праўдападобную пару, у якой Скарына да Масквы езьдзіў, час ад выхаду "Апостала" да сьмерці князя Васіля Іванавіча, ці гады 1525-1533".

А што гаворыць наконт гэтай думкі гараскоп? У чэрвені 1530 года часавы рытм Ф. Скарыны адпавядаў больш чым 54 гадам, што ў сімвалічнай прагрэсіі адпавядала 53° 28'.

***Іван Шубцік, Маладзечна.***

Працяг будзе.

